Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль



Навучэнцы Віленскай гімназіі, 1938 год. У цэнтры настаўнік Егер (з сямейнага архіва Марціновічаў).

*Леаніла* МАРЦІНОВІЧ

# ВІЛЬНЯ, ALMA MATER*

БЫЛА я малая, як прыехала ў гімназію. Мне было ўсяго дванаццаць гадоў. Да гэтага вучылася ў вясковай пачатковай школе, у Заполлі Карэліцкага раёна. Пайшла ў школу ў шэсць гадоў... Скончыла шэсць класаў. Школа была польская. Праўда, мы, дзеці гэтай школы, напэўна ж, не па сваёй ініцыятыве, а па чыёй — я не ведаю, зрабілі дэманстрацыю: выйшлі «шчыльнымі радамі» перад школай, і я з чырвоным берэцікам на палачцы, у першай шарэнзе, памятаю, быццам гэта было ўчора, казала: «Мы дамагаемся беларускай школы!» Нас разагналі. У школу на заняткі мы не пайшлі. Страйкавалі. Потым пачаліся заняткі, але мяне не пускалі нейкі час. Мама прасілася, малілася. Пусцілі.

Беларускую мову ўвялі. І вельмі хутка пасля нашага бунту. Вёў беларускую мову дырэктар школы, пан Бараноўскі. Мы не маглі надзівіцца: паляк, заядлы паляк Бараноўскі, умеў гаварыць на нашай мове! Мы адразу палюбілі яго гарачай любоўю. І так у мяне цягнулася доўга: як пачую, што нехта гаворыць па-беларуску, адразу той робіцца для мяне сваім, родненькім.

Тады, як толькі я прыехала ў Віленскую гімназію, найбольш уразіла тое, што ўсе вакол — і педагогі, і вучні — гаварылі па-беларуску. Можа, таму я так палюбіла ўсіх там і цяпер успамінаю ўсё і ўсіх з любасцю.

Інтэрнат наш быў на Садовай вуліцы, недалёка ад вакзала. З інтэрната я найбольш запомніла склад-каморку, дзе мы ставілі свае куфэркі з хлебнымі сухарамі, пячэннем, салам ці каўбасой, у каго што было. Падсілкоўваліся сваімі харчамі. Раскошы ў інтэрнаце не было. Выхавацелька была ветлівая, сімпатычная. Як мне здавалася тады, дама гадоў пад шэсцьдзесят. А цяпер я добра ўсведамляю, што ёй было не больш за сорак. Гаварыла з намі чысценькай беларускай моваю. Я ўжо і за гэта палюбіла б яе.

Здаецца, праз год, а можа праз два, жыццё наша змянілася. Калі не памыляюся, менавіта ў гэты час беларуская гімназія стала філіяй польскай імя Славацкага. Нас перавялі з вуліцы Вострабрамскай на вуліцу Дамініканскую. Перасялілі нас і ў іншы інтэрнат, шыкоўны ў параўнанні з першым. У гэтым інтэрнаце нас тры разы ў дзень кармілі, а дакладней — чатыры, бо яшчэ з сабой на заняткі давалі бутэрброд. І снеданне, і абед, і вячэра складаліся з трох страў. Афіцыянткі гаварылі з намі па-польску. Выхавацелек цяпер было тры. Адна, галоўная, цэлы час знаходзілася ў інтэрнаце, а дзве на змену рыхтавалі з намі ўрокі. Адна з іх Зіна Рагуля, гаварыла з намі заўсёды па-беларуску. Раней яна скончыла беларускую гімназію, а цяпер вучылася ва універсітэце. Мы гэтым ганарыліся. Усе тры выхавацелькі былі высокаадукаваныя. Яны заўсёды маглі, умелі адказаць на любое наша пытанне па абсалютна ўсіх дысцыплінах. А нас цікавіла ўсё!

Памятаю, мы перад сном у святліцы збіраліся на малітву. Каторая з гімназістак, звычайна дачка святара, чытала з малітоўніка малітву, і так канчаўся дзень.

Між сабою і ў гэтым «польскім» інтэрнаце мы заўсёды гаварылі па-беларуску. І ў галаву не прыходзіла, што можна гаварыць інакш. З дзяўчатамі-палячкамі (іх было там некалькі) мы таксама гаварылі па-беларуску, а яны адказвалі па-польску. Не тое, што цяпер у нас: муж-пісьменнік, калі жонка руская, абавязкова гаворыць з ёю па-руску, размоўца з рускім, калі нават гэты рускі жыве ўсё жыццё на Беларусі, звяртаецца да яго па-руску. А ў тэлеперадачах і на радые часта чуеш такое. Журналіст скажа слова ці два на беларускай мове, а калі суразмоўца, хоць гэта і вясковая жанчына, адазвецца на «трасянцы», журналіст адразу пераходзіць на рускую мову. І сумна, і агідна, і незразумела ўсё гэта.

Не памятаю, каб у тыя гімназіцкія мае гады каго-небудзь агітавалі, ці супраць нечага або некага. Не памятаю ні аднаго абразлівага слова ў адрас нас, беларусаў, ці беларускай мовы.

Часам у інтэрнаце, у святыя дні ці пасля заняткаў, мы садзіліся гуртом і спявалі песні, у асноўным беларускія. Толькі «любоўныя» тангі ды вальцы спявалі па-польску. Спявалі з любоўю і ўсе разам: малодшыя і старэйшыя. Запявалаў заўжды ўсе паважаюць, памятаюць. Са старэйшых цудоўна спявала Маруся Друччанка, наша зямлячка, а з малодшых — Ніла Барадзіна, мая сяброўка.

МЫ, МАЛЫЯ, вельмі паважалі старэйшых. Мы на іх маліліся. Імі любаваліся, захапляліся. Кожная з нас выбірала сабе куміра, хацела да яго быць падобнай. Я вельмі хвалявалася і цешылася, калі выбіралі маю сястру, Веру Спарычанку. Сама я хацела быць падобнай да Ніны Ляўковіч. Яна насіла нязменна беларускі паясок каля белага каўнерыка і пісала вершы. Мне вельмі хацелася мець такі бел-чырвона-белы паясок.

Жылі мы ў інтэрнаце асобна ад хлопцаў. Хлопцы жылі ад нас досыць далёка. Там была сталоўка. Хадзілі туды ўсе без спазнення. Там елі ў двух залах, таксама асобна, хаця ў адзін час.

Не памятаю, каб мы, дзяўчаты, сварыліся ў інтэрнаце. Часам былі кпіны, жарты, насмешкі, але не злосныя, не такія, аб якіх цяпер часта гавораць і пішуць. Цяпер шмат жорсткасці, грубасці, здзеку ў класах, інтэрнатах. У нас гэтага ні ў класе, ні ў інтэрнаце не было. Ніколі не было. Аднойчы загадалі напісаць сачыненне на тэму: «Мая любімая птушка». І адна дзяўчынка напісала пра зайца. З таго часу мы яе сталі зваць «птушка-заяц». Выхавацелька пасарамаціла нас за гэта, хоць мянушка была не такая ўжо і злосная.

У пэўны час усе сядзелі ў святліцы за сталамі, рабілі ўрокі. Побач сядзела выхавацелька-кансультант. Калі стамляліся, перасылалі адна адной для запаўнення спісы-анкеты: хто самы прыгожы ў нашым класе. Пачыналі з самай-самай красуні і даходзілі да самай некрасуні. Во як жорстка! Праўда, ішла іншая ўздагон анкета: хто самы лепшы, хто самы разумнейшы. Гэта ўжо была нібы кампенсацыя: апошнія з першай анкеты станавіліся першымі ў другой... Але ж кожнай дзяўчыне хацелася найперш быць найпрыгажэйшай... Было і такое пытанне: хто кім будзе, хто што добрае зробіць у жыцці...

Я, напрыклад, марыла быць настаўніцай у вёсцы, дабівацца там з вучнямі беларускай школы. Марыла таксама, што здарыцца нейкі цуд: усе загавораць па-беларуску, нават ваявода Бацянскі. Ну, а калі гэта не здарыцца, дык, думала, буду чытаць з дзецьмі хоць сяды-тады беларускія кніжкі, ставіць спектаклі, дэкламаваць вершы на вячорках вясковых дзяўчат. А іншыя мне прарочылі ў спіску-анкеце быць выкладчыкам лацінскай мовы ў гімназіі.

Добра нам было ў гімназіі. Хацелася туды вяртацца пасля канікулаў. Хацелася хадзіць на заняткі, гаварыць з настаўнікамі на экскурсіях, хацелася разам хадзіць у тэатр. Асабліва запомніўся мне адзін канцэрт, на якім мы былі таксама разам з нашымі педагогамі. Гэта было тады, калі прыязджаў у Вільню знакаміты Забэйда-Суміцкі. Там было мора людзей, мора галасоў, смеху, радасці. Нам сказалі перад канцэртам, што гэта адзіны наш спявак, такі спявак, якога ведае свет, і які нідзе ніколі не выступае без беларускай песні.

Прыйшлі. Чакаем з заміраннем душы. І пачынаецца канцэрт: «А-а-а Лявоніху Лявон палюбіў...»

Ніколі да таго не даводзілася мне чуць у сапраўдным тэатры ад сапраўдных акцёраў нічога на беларускай мове. Божа! Якое гэта было невыказнае шчасце!

І ВОСЬ, пішучы гэтыя нататкі, прыгадваю, як я, выкладчыца англійскай мовы, аднойчы занесла спецыяльна студэнтам беларускі часопіс з нейкім лірычна-патрыятычным артыкулам, каб яны прачыталі яго, спадзеючыся, што артыкул узрушыць іх, расчуліць, прымусіць задумацца... Нуль увагі. Ніякай рэакцыі. Думала, пamру з гора.

А нас там, у гімназіі, такое ўсё кранала. Сустрэнеш на віленскай вуліцы чалавека гарадскога выгляду, пачуеш ад яго слова беларускае — цешышся. Пойдзеш на рынак, на Падгалле, пачуеш сваю гутарку, і ўжо здаецца — ты чалавек. Нават акцэнт свой, інтанацыя, асобныя слова з вуснаў тых, хто прадаваў там усялякую ўсячыну, рабіў гэтых людзей вельмі блізкімі. А ўжо як пойдзеш у кніжны магазін да Шутовіча, убачыш старэнькую тоненькую кніжачку на беларускай мове, дык зусім душа заміpae.

Пэўна, не адна я, а ўсе мае таварышы, не абыякава, а трывожна, з пачуццём, спявалі, стоячы ў доўгім калідоры гімназіі перад пачаткам заняткаў вось такую малітву:

Краіну родную, Беларусь бяздольную,  
Божа, храні.  
І сыноў яе бедных, працай замучаных  
На дарогу светлую,  
Божа, напраў.  
Волю, свядомасць, брацтва і роўнасць,  
Шчаслівую долю ім,  
Божа, пашлі!

У гімназіі вучыліся і праваслаўныя, і каталікі, але гэтую малітву спявалі ўсе разам.

Апекавалі гімназістаў два святары: праваслаўны і ксёндз. Калі прыпамінаю той час, мне здаецца, што ксяндза я ўбачыла ў самы першы дзень свайго прыходу ў будынак гімназіі. У маёй вёсцы ксяндзоў я не бачыла ніколі, толькі чула, што ёсць такія. І вось у гімназічным калідоры наткнулася на ксяндза. «А кветачка-каласочак!» — адазваўся ён, высокі і мажны, у чорнай сутане і ў белай, вышыванай васількамі кашулі, ксёндз Гляkoўскі. Помніцца мне, што ён гаварыў па-беларуску, хадзіў на перапынках па калідоры і знаходзіў для кожнага ласкавае слова. А адзін раз мяне пачаставаў булачкай. Мабыць, заўважыў, што ўсе елі булкі, а я не. Прыгадваю тое-сёе і пра бацюшку. Быў ён тоненькі, худзенькі, з вузенькай бародкай. Гаварыў ціхім голасам, расказваў пра ўсіх святых звычайна аднаму гімназісту, таму, хто яго слухаў ці рабіў выгляд, што слухае. Я, між іншым, была яго пільнай слухачкай заўсёды, хаця рэдка калі чула, пра што ён ціхенька, манатонна распавядаў. У нядзелькі і ў святы ўсе мы парамі ішлі ў царкву — сваю, Пятніцкую. Там на беларускай мове служба ішла.

УСІХ памятаю педагогаў. Не іх прозвішчы, а іх аблічны, вобразы, характары. Ёсць такія, што стаяць перад вачыма як жывыя. Яны, як цяпер я разумею, укладалі свае душы ў нашы душы.

Гэта найперш пані Алёна, настаўніца беларускай мовы ў першым класе. Як цяпер, дык я разумею, што яна была настаўніца не вельмі высокай прафесійнай кваліфікацыі, і эрудыцыя, як кажуць, з яе не выпірала. Яна больш вучыла нас голасам, інтанацыяй, слязой. Сама чытае апавяданне Цёткі ці Коласа, усплакне і далей чытае. А пасля паўгадзіны захапляецца тым, пра што прачытала. Вельмі любіла, каб у нас па літаратуры і мове былі прыгожыя сшыткі, размалёваныя. Прасіла нас рабіць малюнкі да кожнага твора, якія мы чыталі, не кажучы ўжо аб франтальным лістку. Ёй падабалася, калі першая старонка сшытка была па-мастацку аформлена: ці кветка-васілёк ці каласкі, ці дуб разгалісты, ці бусел на гняздзе, а ўжо пані Алёна не шкадавала слоў пахвалы, а то і слязу пускала, убачыўшы малюнак па душы. Зірне на цябе, праслязіцца ды яшчэ і па галаве пагладзіць або моцненька абдыме.

Яна вяла ў нас і ручную працу. Вучыла вышываць і шыць на машыне. Вышывалі блузкі, фартушкі нацыянальнага строю. Насілі вышытыя блузкі на забавы. Гэта было нешта такое, што на нашы сучасныя заняткі зусім не падобнае. Гэта хутчэй — вячоркі, вячоркі маладых з матуляй ці бабуляй. Пані Алёна ўсё нечаму нас вучыла. Прыбіралі мы клас у канцы заняткаў. Нейк пад сталом засталася маленькая нітачка. Яе амаль і не відаць было. Яна прымусіла мяне падняць тую нітачку. А я сказала: «Пані Алёна, яе ж не відаць». І яна стала вучыць нас, як прыбіраць у хаце, як накрываць стол, як гасцей прымаць.

Неяк з мяне пасмяяліся каляжанкі, што я збіраю паперкі-абгорткі ад цукерак. Пані Алёна мяне абаранілa. Сказала: цікавыя людзі тыя, якія ўмеюць усім цікавіцца, заўсёды нешта збіраюць; тыя, што змалку што-небудзь збіралі, рабіліся калекцыянерамі, ствaралі бібліятэкі, музеі, кнігарні.

Пані Алёна падарыла мне падручнікі і алоўкі для малявання — за тое, што я размалёўвала першыя старонкі сшыткаў па беларускай мове.

Я ўспомніла драбніцы, маленькія ўчынкі пані Алёны, а яна рабіла вялікія, значныя. Яна ў час нямецкай акупацыі падняла на вуліцы «нячыйнае» дзіця, гадавала яго. Потым яе за нешта пасадзілі. Казалі людзі, што пазней выратаваў яе, вызваліў з нявολі бацька таго дзіцяці. Цяпер былыя вучні носяць кветкі на магілу пані Алёны. Вечная ёй памяць.

Працяг на 4-й стар.

* *Маці, якая корміць (з лацінскай мовы).*

# У вянок Максіму Багдановічу

Узнёслае слова пра М. Багдановіча усё часцей чуецца на Лідскай зямлі. Тут пачаліся ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта. Адкрыліся яны святам беларускай культуры ў гарадскім парку культуры і адпачынку.

Пра вялікае значэнне творчасці Максіма Багдановіча ў духоўным жыцці народа гаварыў старшыня Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, народны дэпутат Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў, паэт Міхась Мельнік. Вершы знакамітага песняра і творы, прысвечаныя юбіляру, прачыталі сябры літаратурнага аб'яднання пры газеце «Уперад» Пятро Макарэвіч, Наталля Грынь, Аксана Кіслова, Ірына Захарава і Вольга Кулагіна. А тутэйшыя барды Андрэй Ус і Сяржук Чарняк з глыбокім пачуццём выканалі шэраг песень, у тым ліку і на словы М. Багдановіча.

Цёпла прынялі ўдзельнікі свята канцэртныя выступленні самадзейных калектываў. Сярод іх былі дзіцячы фальклорны ансамбль «Дударыкі» з Гродна, народныя ансамблі песні і танца «Чаравічкі» Лідскай абутковай фабрыкі і «Лідчанка» ГДК, а таксама фальклорны шумавы аркестр з вёскі Феліксава Лідскага раёна, беларускі народны аркестр музычнага вучылішча і іншыя.

На цэнтральнай прысадзе парка адбылася выстава-продаж твораў лідскіх мастакоў Алеся Судара, Янкі Красачкі і іншых.

Застаецца дадаць, што фінансавалі правядзенне свята гарадское аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, кааператывы «Алеся» і «Арнамент».

Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ,
сябра ТБМ імя Ф. Скарыны.
г. Ліда.

# Міжнародная школа беларусістыкі запрашае на вучобу

Трэцяга ліпеня 1991 года пры Белдзяржуніверсітэце ўпершыню на Беларусі распачала работу Міжнародная школа беларусістыкі (МШБ). Людзі розных узростаў і прафесій — навукоўцы, выкладчыкі, аспіранты, студэнты, якія жывуць за мяжой або ў іншых рэспубліках Савецкага Саюза,— прыехалі ў Мінск вывучаць беларускую мову, літаратуру і культуру.

На адкрыцці заняткаў гасцінна віталі першых слухачоў школы яе дырэктар дацэнт У. А. Навумовіч і дэкан філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна член-карэспандэнт АН БССР А. А. Лойка. У сваіх выступленнях яны адзначалі, што слухачы за час вучобы не толькі набудуць веды па мове, літаратуры, культуры і гісторыі Беларусі, але і змогуць яшчэ пабачыць цудоўныя мясціны нашага краю, прымуць удзел у нацыянальных святах, сустрэнуцца з мастакамі, кінематаграфістамі, археолагамі, кампазітарамі рэспублікі, наведаюць мемарыяльныя комплексы, азнаёмяцца з народнымі рамёствамі на Беларусі.

Арганізатары МШБ падрыхтавалі для слухачоў змястоўную вучэбную праграму. Разнастайная, напрыклад, тэматыка лекцый: царква на Беларусі, геральдыка Беларусі, ідэі суверэнітэту Беларусі ў гістарычнай перспектыве, праблемы беларускага правапісу, беларускія гаворкі, дзеячы беларускага Адраджэння, беларуская літаратура за мяжой, нацыянальны духоўны космас беларусаў, самабытныя з'явы беларускага фальклору і іншыя. Лекцыі прачытаюць вядомыя ў рэспубліцы і за яе межамі вучоныя Грыцкевіч А. П., Ермаловіч М. І., Лыч Л. М., Супрун А. Я., Цыхун Г. А. і іншыя.

Слухачы першага заезду займаюцца ў школе з 3 па 29 ліпеня. Яшчэ не позна падаваць заяўкі на заняткі ў другім заездзе з 1 па 25 жніўня 1991 года. Дырэкцыя МШБ мае намеры пашырыць свае прадпрыемства і гатова пайсці на заключэнне кантрактаў з партнёрамі, на стварэнне сумесных навукова-культурных праграм. Па жаданню слухачоў можна ажыццявіць паглыбленае вывучэнне асобных прадметаў, а таксама прадоўжыць ці змяніць тэрміны навучання. Тым, хто захоча стаць слухачом Міжнароднай школы беларусістыкі ў Мінску, дастаткова запоўніць анкету і накіраваць яе на адрас школы: 220088, г. Мінск, вул. Захарава, 59. МШБ. Тэлефон 27-30-14. Разлік за навучанне ажыццяўляецца па індывідуальнай дамоўленасці абодвух бакоў.

Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры сардэчна запрашае на вучобу ўсіх прыхільнікаў беларушчыны як з-за мяжы, так і з Савецкага Саюза.

Ці дзейнічае Закон аб мовах?

# БЕЗДУХОЎНАСЦЬ

*(Як мокрае гарыць, укараняецца Закон аб мовах у Кармянскім раёне)*

ШМАТ што з нашай рэчаіснасці, перш за ўсё абыякавасць да нацыянальнага Адраджэння, бездухоўнасць прымушаюць узяцца за пяро. Невыкананне Закона аб мовах пагражае ўтапіць пачатае (каторы ўжо раз) адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, пагражае духоўным Чарнобылем.

Кажу так, бо падстаў для гэтых сумных, хвалюючых думак больш чым дастаткова. Мізэрна мала зроблена ў нашым Кармянскім раёне па ўкараненні ў школах, іншых установах Закона аб мовах. Хутка будзе год, як ён дзейнічае, а дагэтуль, як давялося пераканацца, няма ў нашым раёне грунтоўных мерапрыемстваў ці хаця б першасных распрацовак па ўкараненні Закона аб мовах ні ў райкоме КПБ, ні ў райвыканкоме.

Дарэчы, калі я пацікавіўся ў загадчыцы агульнага аддзела Кармянскага райвыканкома Л. Анікеенка, ці прымалася нешта падобнае ў заканадаўчым плане ў раёне, яна са здзіўленнем зірнула на мяне і запыталася:

— А што, хіба ў нас, у вобласці, нехта за гэта браўся? Давялося для пераканання паказаць газету суседняга Буда-Кашалёўскага раёна са змешчаным у ёй рашэннем райвыканкома «За развіццё роднай мовы». Паспрабаваў тлумачыць, маўляў, калі няма мерапрыемстваў, няма адзінага цэнтра ў асобе раённай рады Таварыства беларускай мовы, няма адказных асоб і выканаўцаў, то кожны бярэцца «выконваць» Закон на свой лад. Таму і з'яўляюцца замест бляклых старых новыя вялізныя шыльды на крамах райспажыўсаюза: «Посудоскупочный магазин», «Хозяйственные товары», а таксама ўзыходзіць «Солнышко» над яшчэ недаробленай летняй дзіцячай кавярняю і сваімі промнямі «асвятляе» памылкі на шыльдах з раскладам дня на дзвярах шэрагу крам, напрыклад: «Сангадзіна» — каждая серада с 11 до 12» (на краме «Хлеб» па вуліцы Ільюшчанкі).

Здавалася б, у вёсцы — калысцы беларускай нацыі і культуры — павінны пераважаць назвы на беларускай мове. Ды дзе там: на крамах Літвінавіцкага сельпо назвы выключна рускія. І ўвогуле, з наведаных днямі ўстаноў Літвінавіцкага і Акцябрскага сельсаветаў толькі на будынку апошняга давялося ўбачыць шыльду з беларускімі літарамі.

Зрэшты, ёсць больш абуральныя факты абыякавасці, раўнадушша да беларускага нацыянальнага Адраджэння. Вось што распавядала метадыст райана Р. Шлемянкова, якая пакуль што на грамадскіх пачатках курыруе беларускамоўныя прадметы ў школах:

— Хацелі мы адкрываць беларускамоўныя класы з 1 верасня гэтага года ў СШ № 1 і № 2 г.п. Карма і Літвінавіцкай дзесяцігодцы. Апыталі бацькоў, і тыя ў большасці сваёй выказаліся на сходах... супраць таго, каб іх нашчадкі авалодвалі ведамі на роднай мове. Так вырашылі бацькі, чые дзеці сёлета ідуць у першы клас. Матывы? Несур'ёзныя. Маўляў, не ведаем, колькі нам жыць у гэтай радыяцыі. Дык навошта яна нам, тая мова, калі мы ў Расію будзем перасяляцца?..

Праўда, трэба было б памятаць у райана і іншае. Па-першае, згодна з сацыялагічным апытаннем, што было праведзена райвыканкомам праз раённую газету ў студзені, выказалі жаданне перасяліцца за межы рэспублікі толькі 0,6 працэнта апытаных. Па-другое, па выніках апошняга Усесаюзнага перапісу насельніцтва, праведзенага ў 1989 годзе, з 7,2 тысячы жыхароў Кармы 6,5 тысячы запісаліся беларусамі, прычым 6229 (!) з іх назвалі ў перапісных дакументах у якасці роднай мовы беларускую. Дарэчы, і з іншых нацыянальных меншасцей (рускіх, украінцаў, яўрэяў, татараў, палякаў) пераважная большасць таксама лічыць сваёй роднай мовай беларускую. Да прыкладу, сярод 488 рускіх такіх аказалася 457!

Некаторыя настаўнікі мову сваіх продкаў лічаць сёння неінтэлігентнай, мужыцкай. Пацвярджэнне таму — ледзь не гумарыстычны выпадак, які здарыўся з жонкай аднаго нашага сельскага карэспандэнта. Дык вось, калі яна ў размове па тэлефоне назвала імя свайго субяседніка — настаўніка адной з сярэдніх школ райцэнтра — на беларускі лад, той не на жарт пакрыўдзіўся і цяпер не здароўкаецца.

Здавалася б, хто, як не настаўнікі, работнікі народнай асветы павінны ўзяць на сябе найбольшы цяжар у рабоце па ажыццяўленні Закона аб мовах. Але як, варта спытаць, яны могуць прапагандаваць родную мову, агітаваць за яе, калі з 416 педагогаў раёна «Настаўніцкую газету», якая, дарэчы, рэгулярна публікуе спецстаронку па пытаннях беларускай мовы «Дзянніца», на сёлетні год выпісала ўсяго 144 чалавекі?

Калі глядзець глыбей, то абыякавасць у нас праяўляецца не толькі да пытанняў стану роднай мовы, але і да гістарычных каранёў народа. Паўсюдна ў рэспубліцы ідзе рух за перайменаванне, а дакладней, наданне населеным пунктам іх першапачатковых найменняў. Вядома, ёсць і на Кармяншчыне шэраг паселішчаў (Дубравіна, Акцяброва), што раней мелі зусім іншыя назвы, у якіх заключаліся іх гістарычныя асаблівасці. Па ўсім відаць, у нас пакуль што не збіраюцца мяняць назвы, «прапанаваныя» некалі ідэалагічнымі монстрамі — сталіністамі і застойшчыкамі.

Тым не менш, не перавяліся яшчэ ў нас людзі, якія хвалююцца за лёс мовы, культурна-гістарычную спадчыну роднага краю або проста з разуменнем падыходзяць да палажэнняў Закона. Нядаўна пацікавіўся я пазіцыяй дырэктара аўтапарка № 15, члена бюро райкома КПБ У. Сомава, адначасова паведаміўшы яму, што на Гомельскім аўтавакзале можна ўбачыць аўтобусы з шыльдамі на беларускай мове, аздобленымі нацыянальным арнаментам.

— Мы таксама не спім у шапку, — зразумеў намёк Уладзімір Навумавіч.— Вось днямі прывезлі штампы, пячаткі і фірменныя бланкі арганізацыі, зробленыя на беларускай мове, ды і за пераафармленне шыльдаў — указальнікаў напрамкаў на аўтобусах — думаем узяцца ў бліжэйшым часе. І ўвогуле, ёсць Закон — трэба яго выконваць.

Так, марудзіць нельга. Але мэтанакіраваны характар беларуская справа можа набыць пры наяўнасці адзінага цэнтра ў асобе пярвічнай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Тут мы дужа адсталі ад іншых, бо Кармяншчына — у ліку тых нямногіх раёнаў рэспублікі, дзе мясцовая рада Таварыства не створана. Хаця ўмовы і аснова для гэтага становяцца ўсё больш спрыяльнымі. Вось і лютаўская пастанова Саўміна БССР абавязвае выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў садзейнічаць стварэнню на месцах арганізацый Таварыства, аказваць ім самую шырокую дапамогу, у тым ліку памяшканнямі і сродкамі сувязі. Успамінаюцца мудрыя і трапныя словы беларускага пісьменніка У. Дубоўкі: «...Жыць з людзьмі, сустракаючыся з імі штодня, і не ведаць іх мовы — я лічу недастойным людской годнасці. Апрача таго, гэта значыла б прызнацца ў сваёй бяздарнасці».

Рыгор ГАНЖУРАЎ.

Старонкі гісторыі

# СТАНАЎЛЕННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

*Вадзім САЛЕЕЎ*

(Заканчэнне. Пачатак у № 19).

Дарэчы, і з інтэлігенцыяй як носьбітам нацыянальнай самасвядомасці ў беларускім этнасе склалася вельмі цяжкае становішча. На працягу амаль двух з паловай стагоддзяў, пачынаючы з XVII ст., кожная з пануючых на Беларусі культур — спачатку польская, потым руская — імкнуліся асіміляваць перш за ўсё шляхту і людзей «другога саслоўя» (духавенства). Тым больш, што самыя ўплывовыя канфесіі на беларускай зямлі — праваслаўе і каталіцтва — таксама мелі арыентацыю на рускую і польскую культуру і на адпаведную самасвядомасць. Варта падкрэсліць, што ўсебаковы культуралагічны падыход, а не прымітыўная ідэалагічная методыка, яшчэ не зжытая ў нашых даследчых пошуках, можа паказаць аб'ектыўную панараму жыцця беларускага этнасу ў вельмі важны перыяд XVII—XIX стст.

Пры такім падыходзе можна зразумець і тое, што беларуская шляхта не толькі пад прымусам, але і па сваёй волі далучалася да іншай веры і мовы, да больш развітай і таму больш прывабнай культуры (польскай ці рускай). І таму навукова абгрунтавана думка Л. Лыча: «Як толькі ўзнікала сур'ёзная пагроза для лёсу беларускага народа, самай надзейнай апорай яго былі простыя людзі, асабліва сялянства»... І паколькі фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці на працягу дзесяцігоддзяў найбольш уплывовая, адукаваная частка этнасу не займалася, заканамерна, што асноўнай формай праяўлення этнічнай самасвядомасці беларусаў стала этнацэнтрычнае паняцце «тутэйшыя». («Мы тутэйшыя, страна наша ні руска, ні польска, але забраны край». З этнаграфічных матэрыялаў пачатку XX ст.). І. Чаквін слушна падкрэслівае, што вызначэнні тыпу «тутэйшыя», «тубыльцы», «свае» і г.д. былі ўласцівы ўсім народам на ранніх ступенях іх развіцця. Гэта паказчык існавання даэтнічных, мясцовых форм самасвядомасці. Але ў масавай свядомасці беларускага этнасу менавіта такая саманазва стала найбольш блізкай і зразумелай, ажно да пачатку XX ст. Аб гэтым сведчаць і праграмны верш класіка беларускай літаратуры А. Пашкевіч (Цёткі), і цудоўная п'еса Я. Купалы «Тутэйшыя» (1922 г.) У гэтых «трагічна-смяшлівых сцэнах», як называў аўтар свой твор, на фоне рэвалюцыйных падзей 1918—20 гг. ставіцца адвечнае для беларусаў пытанне «хто мы?»

Па сутнасці, значны ўздым беларускай самасвядомасці, сапраўднае нацыянальнае Адраджэнне адбылося толькі ў 1905—1910 гадах, калі дзейнасць «Нашай Нівы», творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, іншых мастакоў і публіцыстаў, узнялі аблог свядомасці прыгнечанага беларускага люду. Рэвалюцыя 1917 года дала новы штуршок развіццю беларускай нацыянальнай самасвядомасці, хаця сакратар ЦК КПБ В. Г. Кнорын, згодна з тэорыяй бальшавікоў «пралетарыі не маюць бацькаўшчыны», праклямаваў неабходнасць зжыць тыя асаблівасці, якія «выдзяляюць беларусаў ад астатніх рускіх».

Працэс адраджэння і ўздым нацыянальнай самасвядомасці ў перыяд «беларусізацыі» (1922—1926 гг.) садзейнічаў фарміраванню маладой беларускай інтэлігенцыі — творцы і носьбіта нацыянальнай самасвядомасці. На жаль, гэты перыяд быў кароткачасовым, а ў 30-я гады пачалося сталінскае «паляванне» на лепшых прадстаўнікоў нацыі. Амаль кожны, хто разважаў па-беларуску, мог абвінавачвацца ў «нацдэмаўшчыне». Да таго ж, заходняя частка Беларусі, знаходзячыся ў складзе этнасу Польшчы, не магла быць «лакаматывам» духоўнага жыцця беларускага этнасу, хаця ўплыў яе нешматлікай інтэлігенцыі на развіццё беларускай самасвядомасці быў большым, чым у БССР канца 30-х гадоў. Але ў тоўшчы народа вялікіх змен у гэтым плане не адбывалася, пра што яскрава сведчыць сучасны твор беларускай літаратуры «Чужая бацькаўшчына» Вячаслава Адамчыка. Дзеянне адбываецца ў заходнебеларускай вёсцы напярэдадні падзей 1939 года. Фрагмент размовы аднавяскоўцаў:

— Я то во — паляк...

— Які ж вы, дзядзька, паляк? — засмяяўся Міця, азіраючыся на Ваўчка.

— Як і ты — у касцёле хрышчоны. Ды і назвіска маё польскае — Ваўчок.

— Па-польску было б Вільчак, — зноў усміхнуўся Міця, чакаючы, што на гэта адказа Ваўчок.

Але той, пашморгаўшы носам, доўга ўмошчваўся ў канюшыне, потым нехаця, мусіць, пагадзіўся:

— Можа яно і так. А некалі ж маладым хлопцам, як прыйшлі палякі сюды, пайшоў за іх ваяваць... На панікву пабегі, там жа бітва з бальшавікамі была.

Тут перад намі па-мастацку дакладна паўстае векавечная беларуская сітуацыя: герой не мае этнічнай самасвядомасці. Ён ведае: злева палякі, справа — бальшавікі. А хто я сам ёсць? «У касцёле хрышчоны»,— мабыць паляк? Але ўсё ж — Ваўчок, а не Вільчак!

Пасля другой сусветнай вайны сітуацыя не надта змянілася. Больш таго, падзеі страшэннай вайны, памяць аб ёй і ўмела скіраваная прапаганда аб'ектыўна садзейнічалі новаму падзенню ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці. Да таго ж у Беларусь, разбураную вайной, рушыла шмат людзей з розных куткоў краіны. І менавіта тут на хвалі аднабаковага разумення «інтэрнацыяналізму» і спалучыліся нацыянальны, «беларускі» нігілізм і русіфікацыя. Такі працэс цягнуўся да другой паловы 80-х гадоў. Вінаваты ў гэтым розных рангаў кіраўнікі беларускага паходжання, якія планамерна вынішчалі ў сабе ўсё нацыянальнае. Вынік: беларускамоўныя школы ператварыліся ў рускамоўныя, з 13 беларускіх тэатраў (сёння 19), толькі тры ставілі спектаклі на беларускай мове. У заходнебеларускіх абласцях, якія былі заўсёды аддалены ад рускамоўнага арэала, абласныя газеты ўжо больш за чатыры дзесяцігоддзі выходзяць на рускай мове («Заря», «Гродненская правда»). У буйных гарадах Беларусі ўстойліва пануе руская мова, хаця статыстыка сведчыць: беларускае насельніцтва рэспублікі складае каля 79 працэнтаў.

Становішча пачало прыкметна мяняцца ў апошні час. Абвешчаны Вярхоўным Саветам БССР суверэнітэт рэспублікі, прыняты Закон аб мовах у БССР, у адпаведнасці з якім беларуская мова атрымала статус дзяржаўнай. Узрасла ўвага самых шырокіх колаў насельніцтва да гісторыі і культуры краю, асабліва ў сувязі з 500-годдзем Ф. Скарыны. Усё гэта стварае спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай культуры і яе асновы — беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

## Старыя беларускія гімназіі

Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.

# ВІЛЬНЯ, ALMA MATER

Успамінаецца мне матэматык Кіта, мой зямляк, які сабраў усіх нас з навакольных каля Карэліч вёсак і прывёз у гімназію. Ён быў спакойны, вытрыманы, элегантны і ветлівы. Памятаю, ён прынёс партрэт нейкага матэматыка і паказаў яго перад тым, як тлумачыць тэарэму. А я, як Піліп з канапель, выскачыла: «Ой, які непрыгожы!» — «Не гэта самае істотнае, Спарычанка»,— сказаў матэматык. Не крыкнуў, не абразіў мяне, не высмеяў.

Кіта арганізоўваў экскурсіі ў Навагрудак перад канікуламі. Гэта эканоміла нашы грошы. Не баяўся клопату, думаў пра нашу беднасць. Білеты на цягнік для экскурсантаў напалову ці больш былі таннейшыя.

У мяне ніколі не было грошай. Не было грошай плаціць за вучобу. Такіх дырэктар Астроўскі выганяў на «вагары». Прыйдзе ў клас і аб'явіць прозвішчы тых, хто павінен пакінуць гімназію да аплаты за вучобу.

АДЗІН РАЗ была і я на «вагарах». Дзень, другі, трэці, мабыць цэлы тыдзень. Тады Астроўскі выклікаў мяне і кажа: «Што, чортава лялька (такая ў яго была звычка часам гаварыць), спадабалася табе лынды біць. Хопіць. Хадзі на заняткі».

Так і абышлося без аплаты. Так вучылася не адна я.

Быў у нас куратар — па нацыянальнасці немец, па прозвішчы Егер. Ён не зусім добра гаварыў па-беларуску. Памятаю яго фразу: «Прашу сабрацца дзеля працоўні, дзіцяткі, дзеля працоўні». Добры быў чалавек. Любіў усіх нас.

У першым класе нямецкую мову ў нас выкладала немка па нацыянальнасці, фраў Гофман. Лацінскую мову выкладаў настаўнік Анцукевіч. Тлумачыў ён нам па-беларуску. Ён жа стаў дырэктарам пасля Астроўскага. Добра памятаю настаўніцу польскай мовы. Прозвішча яе Касінская. На мой цяперашні розум, я думаю, што яна апалячаная беларуска. Яна вельмі душэўна да нас ставілася. І асабліва любіла, калі ў сачыненнях мы звярталіся да беларускай мовы, уводзілі яе ў мову дзеючых асоб. Яна падказвала рабіць гэта, нават давала такія тэмы сачыненняў, як: «Падслуханая размова каля студні», »Пра што мне апавядала мая бабуля». Пасля трапна ўжытыя вучнем фразы зачытвала ўслых, рабіла гэта з любасцю.

Не памятаю, каб на якіх-небудзь занятках была дрэнная дысцыпліна, каб былі нейкія непрыемнасці, каб чуліся абразлівыя словы, пагрозы і г. д. Паміж сабой хлопцы і дзяўчаты таксама ніколі не сварыліся, а ўжо пра тое, каб біцца — нікому і ў галаву не прыходзіла. Ні гарэлкі, ні нецэнзуршчыны, ні скандалаў — нічога такога ніколі не чулі.

У НАС былі забавы. Збіраліся, танцавалі, іграла музыка. Але мяне ніхто не запрашаў танцаваць. Я была малая, худая ды яшчэ неяк смешна падстрыжаная — так пастаралася ўпрыгожыць мяне мая сястра. Толькі часам для агульнага смеху падыходзіў да мяне самы высокі ў гімназіі старшакласнік па прозвішчы Аўдзейчык і запрашаў мяне танцаваць. Тады ніхто не танцаваў, усе глядзелі на нас. Я і гэтаму радавалася.

А пасля дык наогул была шчаслівая, — калі ладзілі гульню ў пошту. Мяне рабілі паштальёнам. Надзявалі цераз плячо сумку паштара, на галаву нейкую высачэзную папяровую шапку, і я разносіла лісты закаханых. Мне гэта падабалася.

Але час мяняўся. Як я ўжо казала, нашу гімназію злучылі з польскай, зрабілі яе філіяй. Мы перасяліліся ў іншы будынак. У нас станавілася больш і больш польскамоўных выкладчыкаў. Менш і менш дысцыплін на беларускай мове. Ужо не было цёплых хатніх адносін паміж вучнямі і выкладчыкамі.

Помню, аднойчы было нейкае свята. Нейкая дэманстрацыя. І нашай беларускай гімназіі скамандавалі адысці ад трыбуны назад, у горшае месца, а там засталася польская гімназія. Нас гэта, хоць малых, уразіла і абразіла. Мабыць, гэта падштурхнула нас, як кажуць, смаркатых фактычна дзяцей, стварыць сваю арганізацыю «Жыве Беларусь». Склалі спіс. Небагата было нас, — чалавек дзесяць: я, Вольга Мароз, Вера Белакоз, Вольга Крако, астатнія хлопцы. Адзін раз пайшлі на могілкі, пасядзелі каля магілы Ядвігіна Ш., пагаварылі. На гэтым уся работа скончылася. Толькі спіс так званай арганізацыі застаўся ў кожнага. Яго я доўга захоўвала.

У 1939 годзе, пасля ўз'яднання Беларусі, наша гімназія пераехала ў Навагрудак. Пераехалі туды вучні, некаторыя выкладчыкі і наш вартаўнік, дзяжурны па калідоры ў гімназіі дзядзька Сцёпа са сваёю жонкаю і кучаравенькай рыжанькай дачкой.

Да нас далучыліся нашы землякі-навагрудчане з польскіх гімназій. Не было ў нас нашага дырэктара Анцукевіча. Не было многіх выкладчыкаў. Не было ўжо ў нас формы. Раней мы хадзілі ў форме, і толькі ў форме. Дзяўчаты ў сініх у складку спаднічках і сініх блузках з белым каўнерыкам. Паверсе — чорненькія фартушкі. Гэта была больш святочная форма. Яшчэ можна было хадзіць у гімназію ў чорных халаціках з белымі каўнерыкамі. На жаноцкіх каўнярах і манжэтах былі ў малодшых блакітнага колеру выпускі, а ў старэйшых — бардовага. На рукавах была тарча. Што на ёй было і што яна значыла — не памятаю. На галаве сіні берэт. Хлопцы апраналі сінія касцюмы. У Навагрудку стала воля — апранай што хочаш.

Мы шмат чаго даведаліся новага. Там мы ўпершыню пачулі рускую мову. У Вільні мы ніколі яе не чулі. Праўда, у нас была адна гімназістка Вольга Мароз, яна ведала на памяць багата вершаў Пушкіна і перад сном часта іх дэкламавала нам. Сорамна прызнацца, але ў Вільні мы нічога не даведаліся пра Савецкі Саюз, пра савецкую літаратуру. У гімназіі нам ніхто ніколі не ўспамінаў пра гэты свет.

Пра Савецкі Саюз я чула толькі ў вёсцы, а дакладней — пра Саветы, так называлі ў нас Савецкі Саюз. Мы ўсе чакалі, калі да нас прыйдуць Саветы. Думалі, што там зямны рай: роўнасць, воля, багацце і беларуская мова — у школах, у канцылярыях, унізе і ўгары. Хутка мы пабачылі, адчулі сэрцам, што гэта не так.

Ну вось. Істотнага я нічога не напісала. Строгі выкладчык мне добрай адзнакі не паставіць...

ДАЎНО ўсё тое было. Ды і час, які выпаў, — вайна, ліхалецце. Не засталося ні аднаго сшытка, ні аднаго пасведчання, ні адной кніжкі, хаця хрэстаматыю Гарэцкага і Дварчаніна добра памятаю. Толькі нейкім цудам засталіся фатаграфіі.

Няма ўжо многіх маіх дзяўчатак-аднакласніц. Няма Веры Белакоз, Вольгі Крако, Веры Какарэка, Тані Хох, Шуры Бязмен, Маргарыты Бяляўскай... Можа, яшчэ каго няма. Пра хлопцаў не ведаю нічога. Засталіся толькі ўспаміны...

ШКОЛЬНІКУ, можа, не так патрэбны глыбокія веды па той ці іншай дысцыпліне, не правілы, законы, а шырыня поглядаў. Ён павінен здзіўляцца красе, нязвыкласці свету, яго велічы. Павінен навучыцца здзіўляцца розуму чалавечаму, яго творчай сіле. Вучань павінен ісці на заняткі, як на свята, а сустракацца з педагогам, як з Богам, а не як з жандарам, перад якім ад страху дрыжаць калені. Каб выклікаць у вучняў цікавасць да жыцця, у школе патрэбна добрая атмасфера, светлыя з вялікім сэрцам педагогі — культурныя, інтэлігентныя. Тыя, што любяць жыццё, чалавека, свой люд і сваю культуру. Такіх педагогаў было шмат у нашай беларускай гімназіі ў Вільні.

## I смех і грэх

### СІЗІФ

Ужо колькі вякоў цягаў Сізіф на вяршыню гары вялізны камень! І той які ўжо раз зрываўся ўніз.

Непадалёку на шашы спыніўся аўтобус з турыстамі. Экскурсавод сказала:

— Паглядзіце налева. На гары мы ўбачым чалавека, які валачэ камень. Гэта наша славутасць. Чалавек з легенды. Завуць яго Сізіфам. Звярніце ўвагу на прапорцыі фігуры. Класічныя, ці не праўда? Гэта вынік штодзённых практыкаванняў з падняццем цяжару на свежым паветры! Хто хоча стаць гарманічна развітай асобай, павінен браць з Сізіфа прыклад. Памятайце: Сізіфава праца робіць чалавека высакародным! Таварыш Сізіф, скажыце пару слоў!

Сізіф перадыхнуў і ўзмаліўся:

— Таварышы! Дапамажыце нявіннай ахвяры багоў Старажытнай Грэцыі, асуджанай на вечныя пакуты!

Турысты закасалі рукавы і гуртам navaліліся на камень.

— Упрыцеся ніжэй. Паехалі! — скамандаваў Сізіф.

Вындроўнікі закацілі камень наверх, крыкнулі «ура!», і тут камень сарваўся і пакаціўся ўніз. Турысты, працягваючы крычаць «ура», збеглі з гары і зноў уперліся далонямі ў камень.

— Раз, два, дружна! — падахвоціў іх Сізіф, стоячы збоку і смакуючы цыгарэту.

— Паспяшайма, хлопцы! Хутка пад'едзе наступная група! Усе хочуць дакрануцца да вечнасці!..

Сямён АЛЬТАЎ.

Пераклала на беларускую мову Любоў ЛАМЕКА.

### ЛАКАНІЗМЫ

Ці думае чалавек, калі ён гаворыць тое, што думае?

Не ў грашах шчасце, але як хочацца пераканацца ў гэтым на ўласным вопыце.

І глупства павінна быць у разумных межах.

Па сутнасці, мы памыляемся толькі двойчы: калі ацэньваем сябе і калі ацэньваем іншых.

Калі ад вялікага да смешнага толькі крок, то як на гэтай прасторы змясцілася так многа аўтараў?

### МАКСІМЫ І МІНІМЫ

Якім павярхоўным стала пачуццё глыбокага задавальнення!..

Адны па-філасофску глядзяць на рэчы, другія — на іх адсутнасць.

Сабак любяць за тое, што яны не хочуць стаць гаспадарамі.

### АФАНАРЫЗМЫ

Адны пачынаюць з падножжа, другія — з падножак.

Прыкмета: калі сцены маюць вушы, значыць, у суседзяў доўгі язык.

Пра начальніка трэба гаварыць толькі добра ці яшчэ лепш.

Калі пастаянна б'юць рублём, адчуваеш сябе разменнай манетай.

Калі фарс доўга не сыходзіць са сцэны — гэта трагедыя.

Меў горкі вопыт салодкага жыцця.

Калі смецце з хаты не выносяць, яно падымае дах.

## Абразкі

### БЕЗ — У!

Пішам, гаворым: *у першы раз, у другі, у пяты, у каторы, у чарговы, у які, у апошні час, кніга накладам* (тыражом) *у пяць тысяч паасобнікаў, заробак у шэсцьсот рублёў, у пяцігадовым узросце, у пяцьдзесят гадоў, пакой у дваццаць метраў, шлях у дванаццаць гадоў, з інтэрвалам у пяць хвілін...* Ну і гэтак далей. А ці па-нашаму гэта? Ці па-беларуску?

Лепшыя знаўцы нашай мовы ва ўсіх згаданых выпадках пісалі і пішуць: *першы раз, другі раз, каторы раз, чарговы раз, які раз (пяты раз табе кажу, пішы правільна па-беларуску!), апошнім часам, кніга накладам* (тыражом) *пяць тысяч паасобнікаў, заробак шэсцьсот рублёў, пакой на дваццаць метраў, з інтэрвалам пяць хвілін...*

Гэтая норма вызначана і нашымі нарматыўнымі слоўнікамі і іншымі даведнікамі (глядзі Руска-беларускі слоўнік, 1982 г., т. 2, с. 277).

Між іншым, у параўнальных артыкулах пра скарыстанне прыназоўніка «в» у рускай мове і «у» ў беларускай, змешчаных у гэтых выданнях, чытач убачыць шмат іншых цікавых з'яў. Прыкладам: *рускаму спалучэнню «в двадцати метрах» адпавядае беларускае «за дваццаць метраў...»*

На жаль, не ўсе пісьменнікі, журналісты, карэктары ўсвядомілі гэтыя нюансы нашай мовы, не засяродзілі на іх увагі і карыстаюцца не характэрнымі для нашай мовы спалучэннямі, абцяжарваюць яе стылістыку. Гэта ўсё ад нашага білінгвізму, ад кепскага засваення сінтаксісу роднай мовы, з нашай абыякавасці, з нашай бяздумнасці, ляноты і нячуйнасці.

З гэтай нагоды хацелася зрабіць адно параўнанне. Калі б гэтак, як працуюць многія нашы журналісты, пісьменнікі, стылісты, як яны абыходзяцца са словам, працавалі, скажам, самалётнікі, зборшчыкі самалётаў, то гэтыя самалёты ці ніколі не ўзняліся б у паветра, ці, узляцеўшы, тут жа развяліліся б на часткі.

І яшчэ адно меркаванне: усе, хто працуе са словам, надта любяць усё прыгожае, гарманічнае, дасканалае, даведзенае да ладу. То чаму ж самі прапануюць чытачам сваю пісаніну з бракам? Пэўна ж, ні адзін журналіст не купіць, скажам, кашулю ці якую блузу, дзе адзін гузік прышыты вышэй, другі ніжэй; ці яшчэ лепей: на адной і той жа кашулі адзін гузік большы, другі меншы ці колерам розныя.

А вось у мове ўсё гэта можна рабіць. І робіцца, і мала кім заўважаецца. Усё глытае наш усяядны чытач. Ну, а катораму што ў горле і перасядзе, дык гэта ж нябачна. Як-небудзь пракаўтне, а пасля і абвыкнецца. І непісьменнасць стане пісьменнасцю, нормаю. І няма чаго тут асабліва лямантаваць! Бяры што даюць!

Уладзімір СОДАЛЬ.

## ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.




Наш адрас: 220005, г. Мінск вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».

Наклад 5.174 паасобнікаў. Заказ 2451. Індэкс 74975.